НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Озимых посеяли на 89 тысяч гектаров меньше...

*Нынешней осенью озимых культур в колхозах и совхозах страны посеяно на 89 тысяч гектаров меньше прошлогоднего.*

Такую информацию предоставили в главке растениеводства Минсельхозпрода.

Основные причины этого — затянувшаяся по срокам жатва и невыполненные работы по подготовке почвы. Хозяйства просто не успели с проведением осеннего сева. Это означает, что ту же программу они будут вынуждены реализовать предстоящей весной, что, несомненно, осложнит проведение и без того непростой посевной компании.

## Падкінулі на бедность

*Савет міністраў Беларусі прыняў пастанову "Аб сацыяльнай падтрымцы работнікаў бюджэтнай сферы".*

Пастанова прадугледжвае падвышэнне з 1 лістапада акладаў настаўнікаў, міліцыянтаў, лекараў, вайскоўцаў і "вертыкальшчыкаў" на 25 працэнтаў, а таксама даплаты ў памеры да 600 тысяч рублёў.

Стыпендыя ў вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных установах і ПТВ стане большай на 20 працэнтаў. Гэтаксама на 20 працэнтаў павялічацца памеры дапамогаў па беспрацоўі.

Натуральна, што падвышэнне заробкаў у сувязі з высокай інфляцыяй не было закладзена ў сёлетні дзяржаўны бюджэт, таму за гэты тыдзень міністэрству фінансаў трэба прыдумаць, дзе знайсці дадатковыя грошы.

## 6 мільёнаў "на брата"

*Паводле дадзеных міністэрства статыстыкі Беларусі, сярэдні заробак сярэдняга беларуса ў кастрычніку гэтага года склаў 6 мільёнаў 102 тысячы рублёў або 30 долараў па рынначаму курсе.*

Для параўнання: у Польшчы сярэдні заробак складае 350 долараў, у Чэхіі — 320, у Літве — 250 долараў.

## Электраэнергія падаражэла амаль напалову

*У мінулую пятніцу Камітэт цэн пры Мінэканомікі Беларусі ўстанавіў гранічныя каэфіцыенты павышэння тарыфаў для насельніцтва, населеных пунктаў і бальнічных устаноў у памеры 1,46. Новыя тарыфы уводзяцца ў дзейнасць з 20 лістапада.*

Такім чынам, Камітэт цэн сваёй пастановай устанавіў наступныя памеры тарыфаў на электрычную энергію: для насельніцтва гарадоў у дамах, абсталяваных электраплітамі — 570 рублёў за 1 кілаватгадзіну (такі ж тарыф прыняты і для вяскоўцаў), у дамах без электрапліт — 850 рублёў за адзінку.

## З 20 лістапада падаражэў газ

*Як стала вядома, у сярэднім на 15 працэнтаў падаражэў прыродны і звадкаваны газ для насельніцтва.*

Так, пры наяўнасці ў кватэры газавай пліты і цэнтральнага гарачага водазабеспячэння ўстаноўлены тарыф у памеры 17.112 рублёў з аднаго жыльца ў месяц. Калі ў кватэры акрамя пліты маецца таксама газавы воданагравальнік, прыйдзецца плаціць 49.147 рублёў. Калі ў кватэры няма як цэнтральнага гарачага водазабеспячэння, так і газавага воданагравальніка, тарыф будзе роўны 27.807 рублёў з аднаго жыльца ў месяц. Пры наяўнасці ў дамах індывідуальных газавых прыбораў па ацяпленню памяшканняў у час ацяпляльнага сезона за 1 кв. м жылой плошчы трэба будзе плаціць 5 тыс. 69 руб. у месяц, у летні перыяд — 2 тыс. 28 руб. у месяц.

У дамах, дзе стаяць газавыя лічыльнікі, за 1 куб. м прыроднага газу прыйдзецца зараз плаціць 5775 руб. Падскочыла цана на газ і для сельскага насельніцтва. Так, балон звадкаванага газу ёмістасцю 50 літраў і вагой 21 кг абыдзецца сёння ў 110 тысяч рублёў.

## Поўныя людзі часцей хварэюць на рак

*Лішняя паўната значна павышае рызыку захворвання ўсімі відамі раку.*

Поўным людзям ракавыя захворванні пагражаюць на 33 працэнты больш, чым людзям з нармальнай вагой. Гэта пацвярджаюць даследаванні, праведзеныя ў Каралінскай бальніцы ў Швецыі. Параўнанне гісторый хвароб поўных пацыентаў з гісторыямі хвароб людзей з нармальнай вагой выявіла павышаны фактар рызыкі захворвання на рак першых.

## Знаете ли вы?

*Что средний размер пособия по безработице составил в октябре 349,3 рублей.*

За эти деньги можно купить 7 пар носков или 2 бутылки водки, или 5 цветных портретов с изображением первого президента Беларуси.

*(БелаПАН).*

Хроника недавних российских событий: президент Чечни объявляет о розыске и уголовном преследовании полевого командира Радуева. Дальше события приобретают просто комический оборот: в самом центре Грозного "скрывающийся" Радуев, окруженный боевиками, проводит прессконференцию, а представители силовых структур объявляют, что они денно и нощно ищут, но найти его невозможно, потому как-де Радуев ... хорошо скрывается.

Подобные аллегории и параллели приходят в голову, когда начинаешь следить за событиями, происходящими в нашей Беларуси. Только в роли негодяя Радуева оказался главный враг нынешних властей — ценовый шквал, свалившийся на наши головы, и которому вроде бы объявлена война. То ли до 1 декабря, то ли до победного конца. Война с ценами — дело хорошее, да вот только эти самые цены, словно издеваясь, как ни в чем не бывало продолжают своё победное шествие по нашей родимой сторонушке. В одном направлении, разумеется. И ничто их не трогает: ни угрозы президента в адрес министров, ни что-то там ещё; спокойно и уверенно шагают эти цены вперед, как те вооруженные до зубов боевики Радуева.

Что ещё интересно, возмущение ростом цен у президента до боли натурально и естественно. Точно такое же возмущение (тем же слогом, с теми же недоумеваниями) можно услышать сегодня в электричках, автобусах, фермах, ресторанах. Но любопытно, что в данном случае возмущение выражает не тракторист Петя или доярка Маня, а президент страны, который сам стоит у руля страны и несёт ответственность за происходящее. Доходит до смешного: Александр Григорьевич с вечера устраивает разнос всему и всем, а утром мы узнаем, что водка подорожала почти вдвое, сахар, масло также. Но повторюсь, президент страны вообще-то не тракторист и не свинарка. Ничто не мешает ему, если руководитель страны такой радетель народа, выпустить указ о восстановлении статус-кво цен на только что подорожавшие товары. Учитывая решимость президента, есть смысл предположить, что сделать сие ему было бы, по крайней мере, не сложнее, чем выгнать заграничных послов из Дроздов или разогнать Верховный Совет. Но в этом плане бездействует власть, напоминая собой лишь Сову из басни, которая "з сабою птушкам смерць насіла" и которая, "сама і драла іх, сама і галасіла".

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# РЕЗИНОВАЯ ЛЮБОВЬ

ХХХ

Не менее любопытна ответная любовь электората к нынешним властям. Если со стороны простого люда в адрес властей в последнее время звучит некий ропот, подобный бормотанию, то вертикаль, разного рода "приводные ремни" демонстрируют такую вышколенность, такую лояльность властям, что нельзя не подивиться. Примеры? Пожалуйста.

Недавно на глаза мне попала публикация в газете "Івацэвіцкі веснік" за март месяц (№ 26), за подписью Г. Михайлова (всезнающие люди говорят, что за этой нехитрой фамилией нашел "прытулак" сам редактор газеты Р. Радюк), в которой автор глубокомысленно размышляет об обязательности финансовой стабильности. "...Але для гэтага нам неабходна сбалансаваць імпарт з валютнымі магчымасцямі дзяржавы і зацягнуць паясы, жыць па сродках... Інакш да канца года можам выйці на курс у інтэрвале ад 70 да 90 беларускіх рублёў за долар". На сегодняшний день подобные предостережения без смеха читать-то невозможно: на улице ещё и не самый конец года, а на "черном" рынке курс доллара перешагнул за 200 тысяч.

И что вы думаете, автор по прошествии чуть больше чем полгода выразил своё несогласие с финансовыми перетурбациями на страницах своей газеты, подтвердившие и обогнавшие в несколько раз его самые мрачные прогнозы? Да ничего подобного! Этот автор как ни в чем не бывало с тем же подобострастием пописывает свои статейки. Кажется, будь курс не 70—90 тысяч рублей, а 700—900 тысяч рублей, то и всё равно это автора не озадачило бы.

Остаётся лишь догадываться: то ли власть делает некоторых журналистов, "приводными ремнями" (а по сути дела — какое оскорбление называть творческую личность "ремнём") или они просто этими "ремнями", извините меня, рождаются.

И до какой степени нужно догнать этот курс, ухудшить жизнь людей, чтобы эти "творческие натуры" могли подумать: гм, что-то не так в нашем "королевстве"?

*А. ГОРБАЧ.*

Маладзёжная Газета для вас №8

● ПРЫВЕЛІЯВАНЫ КЛАС

# Цукеркі вам бацькі купляюць?

*Апытанне дзяцей — даволі цікавая справа. Ужо хто-хто, а дзеці вельмі раскавана адносяцца да пытанняў у свой адрас і менш іншых страшацца аб'ектыва фотаапарата. А галоўнае, дзеці — даволі шчырыя асобы, яны ніколі не цырымоняцца, "рэжуць" праўду-матку, таму па іх адказам, лёгка можна намаляваць карціну нашага жыцця-быцця. Вось што, дарэчы, адказалі нам вучні малодшых класаў на пытанне, пазначанае ў загалоўку.*



**РАМАН**: Купляюць! Учора, напрыклад, я ласаваўся цукеркамі. Мама для мяне нічога не шкадуе. Альбы я вучыўся добра. Я і стараюся яе ў гэтым сэнсе не пакрыўдзіць, хоць не заўсёды атрымліваю гэтыя выдатныя адзнакі.



**АНТОН**: І мне мама з работы прыносіць цукеркі. Я люблю салодкае, яна пра гэта ведае. Каб яшчэ вучыўся лепш, то, кажа, купаўся б у цукерках (разводзіць рукамі). Ды мне не трэба дарагія, я любыя цукеркі люблю.



**ДАША**: Мне цукеркі бацькі купляюць.Праўда, зараз у магазінах неразбярыха, прапалі раней знаёмыя гатункі цукерак, але мама ўсё роўна хоць што-небудзь салодкае купляе. Яна ж мяне любіць. І я яе таксама. І цукеркі люблю.

**АД АЎТАРА**. Як вынікае з адказаў, дзеці — не самая пакрыўджаная частка нашага грамадства і лозунг "Усе лепшае — дзецям" спрацоўвае на ўсю моц. Сапраўды, як можна адмовіць чалавеку, які толькі што пачынае ўступаць у жыццё, не стымуляваць яго вучобу тымі ж салодкасцямі? Відавочна, што бацькі пры гэтым адмаўляюць сабе ў многім. Але гэта — іншая тэма для размовы...

*А. ГОРБАЧ.*
**г. Івацэвічы.**

● КУМИРЫ

# Звездный стандарт



**Вячеслав Добрынин** только что выпустил альбом "Азбука любви", приуроченный к церемонии заложения плиты композитора на московской "Площади звёзд", состоявшееся 27 сентября. В альбом вошли 12 новых композиций на стихи М. Рябинина, С. Оснашвили и других. "Я очень горд, что каждый год могу написать по десятку песен", — похвалился г-н Добрынин журналистам.

Красавица **Николь Кидман** играет на театральных подмостках, пока её муж, сэкс-символ США Том Круз, дома в няньках. Обычно Николь получает по 5 миллионов долларов за фильм, а тут согласилась работать за 350 долларов в неделю. В пьесе рассказывается о сексуальных интригах между пятью супружескими парами. Кидман играет все пять женских ролей — от 17-летней девушки до женщины сорока с хвостиком.

Квартира **Валерия Сюткина** была недавно ограблена, когда дома у певца никого не было. В тот же день артист сообщил о краже в милицию. Грабители унесли крупную сумму в валюте, ювелирные украшения, аудио и видеоаппаратуру. Сам Валерий не даёт никаких комментариев, потому что "пребывает в полной прострации" в связи со случившимся.





● КАРАУЛ!

# Машину хочу!

В рокеры наши подростки идти уже не хотят. С мотоциклов они жаждут пересесть на автомобили. Об этом свидетельствует возросшее количество краж машин, совершаемых несовершеннолетними.

В октябре во время кражи автомобиля "Ауди 200" из гаража по ул. Свердлова г. Барановичи был задержан подросток К., 1982 г. р. Действовал он в компании со взрослыми. Цель — разобрать автомобиль на запчасти и продать.

Но чаще всего угоняют машины, чтобы покататься, пофорсить перед девушкой. Не умея толком обращаться с машиной, они ее частенько гробят. И родители вынуждены выплачивать ущерб. Порой всю жизнь.

*(Наш корр.).*

# ЗАБАВЫ ЮНЫХ

*На одной из центральных улиц Минска вечером можно увидеть скопление странно одетых молодых людей. Это тусовка неформалов. Здесь собираются старшеклассники и студенты различных взглядов, материального и социального положения, объединенные одним — молодостью.*

*Барановичи — не Минск. Определенного места встреч у молодежи нет. Свое свободное время каждый проводит в зависимости от интересов и... толщины кошелька.*

## ХОЖДЕНИЕ ПО БАРАМ

В Минске в барах тусуются почти все. Студенты, мелкие бизнесмены, просто любители выпить собираются обычно в "Тройке", люди же с претензиями идут в "Форум" или "Стетхауз". Ну, а у нас, в провинции, этот способ времяпрепровождения — для самых состоятельных. Им обычно пользуются либо нувориши, гордо именующие себя бизнесменами, либо дети чиновников, студенты филиалов коммерческих вузов. С первой категорией я не общалась никогда и желания такого не имею, а вот о второй расскажу подробнее.

Я заметила, что они, кому деньги достаются легко, любят ими слегка посорить, но только так, чтобы все видели и восхищались. Будто именно деньги делают человека Человеком. Впрочем, вопрос это спорный. Ведь если у студента есть деньги, которые заработал (?) влиятельный папочка, об учебе можно забыть. Часами просиживать в читальном зале, строчить конспекты онемевшей рукой, засыпать с учебником — все это суета. Пусть этим занимаются другие, ведь работа любит дураков.

...Они молоды, но в них нет юношеского максимализма, они не стремятся переделать мир, им хорошо при любой власти, они родились циниками. Как это, наверное, ужасно — искренне верить в то, что купить можно все, а если не справились деньги, помогут "плечи".

## PARTY НА КОЛЕСАХ

Если у вас или ваших родителей имеется хоть какой-то завалящий автомобильчик — этот способ для вас. Он попроще, но идеально подходит для страдающих от переизбытка энергии и недостатка свободной площади людей. Происходит все элементарно.

Собираются, обычно, молодые люди во дворе и думают, чтобы им такого сотворить. Компания вроде подобралась хорошая, и девчонки тут, самое время культурно пообщаться. Только неувязочка вышла: родители-зануды торчат дома и никак их оттуда не выманить. Ну никаких условий для отдыха! Эврика! У Васи (Пети, Саши, Вани) тачка стоит во дворе, ну чем не хоромы?! Сказано — сделано. Самых быстрых немедленно откомандировали в ближайший shop, кто-то сбегал за музыкой, и пошла-поехала машинная party. Еще лучше, если авто не одно, а несколько: мест сидячих больше и внушительнее как-то. Для танцев площади предостаточно, воздух свежий, а с девушкой можно и на заднем сидении пообщаться. Лепота. Только вот соседи в "крысиных хвостиках" не разбираются совсем. Стоит только немножко добавить звук, чтобы лучше расслышать любимую мелодию, да попытаться хором в точности воспроизвести слова, тут же в милицию звонят... Ну и что же, что первый час! Ведь ночью и начинается все самое интересное!.. Ну вот, опять все испортили. Эх!.. Ничего, мы завтра продолжим. Правда!?

● ОБЩЕНИЕ

## АЙДА "НА ХАТУ"!

Воистину счастливы те, кто имеет свободную от постороннего вмешательства жилплощадь. Лучше, если в вашем распоряжении частный дом — в стенку стучать никто не будет. Комната в студенческом общежитии тоже ничего — там народ привычный, главное, вовремя заметить и нейтрализовать шпиона-коменданта.

Этот способ самый удобный. Хотя, опять же, все зависит от количества наличных и богатства фантазии. Устроить можно все, что душе угодно. Некоторые, например, очень любят разгуливать по парапету крыши поздней ночью или, что еще смешнее, разбить палатку из одеял, вообразив себя отдыхающим на берегу красивого озера, развести костерочек в тазике, шашлычков поджарить... Можно поступить более традиционно — немножко "покушать" и проявить, наконец-то, свои вокальные возможности.

Словом, каждый "отрывается" по-своему. Главное — следить за тем, чтобы в компанию не проник любитель повеселиться на халяву, лишний рот вам ни к чему. И не дай Бог, родители вернутся не вовремя.

## ВСЕ НА ПИКНИК

Летом появляется все больше и больше любителей свежего воздуха. Никого уже не прикалывает сидеть в душной квартире или мрачном баре. Куда лучше махнуть поближе к водоему и отдохнуть там. Тем же, кто по каким-либо причинам к воде вырваться не может, остается лишь парк. В отдыхе на природе есть своя специфика. Ну, во-первых, если вы что-то отмечали (а повод найдется всегда), заплывать после этого далеко не следует, если только вас не прельщает перспектива всплыть через неделю. Во-вторых, за руль тоже садиться опасно, опять же, если вам нравится ездить зигзагами или, например, протаранить летящий навстречу грузовик, то флаг вам в руки. Коль вы выбрали отдых в лесу, то, ради Бога, после того, как вы с друзьями "хорошо посидели" ни за что на свете не собирайте грибочки, равно как и ягодки. Поссорившись с другом и вырыв топор войны, немедленно закопайте его обратно и выкурите трубку мира. Друг вам еще пригодится после трехдневных попыток попасть домой (в качестве пищи, разумеется).

В парке обычно "тусуются" по праздникам (вроде 1 Мая или Дня Победы). Здесь опасности не таятся на каждом шагу, но все же стоит остерегаться старушек-собирушек (из породы охотниц за пустой тарой). Вечер вам они могут подпортить основательно. Думаю, немногим понравится сидящая чуть поодаль от компании бабулька, ожидающая, когда освободится следующая партия посуды. А если еще и конкуренты набредут!

## "МАФИЯ" У ПОДЪЕЗДА

Наиболее распространенный способ убивания свободного времени. Публика здесь попроще, возраст 12—17 лет, деньги бывают, но редко. Кучки подростков у подъезда можно увидеть везде. Ведут себя вызывающе, беспрестанно сплёвывают и вечно что-то жуют. Им нравится задевать проходящих мимо и громко ржать, наслаждаясь своим остроумием. В стае обычно есть вожак, как правило, чуть старше остальных, воображающий себя "бывалым". Определенного занятия эти ребята не имеют, но некоторые гордо именуют себя "мафия". Они очень агрессивны, и как-либо задевать их я бы не советовала. Хорошим воспитанием здесь и не пахнет, особым интеллектом тоже. Но, в принципе, они безобидны, и опасаться стоит не их, а холеных ребят из бара, которые за внешним лоском прячут кое-что пострашнее подростковой агрессивности...

Таков короткий перечень основных способов отдыха. Я не писала об отдыхе на дискотеке, т. к. там тусуются представители любой категории. Умолчала я и о "чужаках", тех, кому не нашлось места ни в одной компании. Им вообще нет места там, где гремит музыка, слышится мат, где все утопает в спиртном и в сигаретном дыме. "Чужаки" отдыхают дома с книгой, либо общаются с друзьями-единоверцами, если таковые имеются. Больше им пойти некуда...

Неважно, где отдыхать, важно, как отдыхать. Оставайтесь самим собой в любой компании и не забывайте об окружающих. Может иногда стоит сделать звук чуточку поменьше?

*М. КУЛИКОВА.*
*г. Барановичи.*

